

№ 8 (121)
Люты 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





21 лютага па ініцыятыве ЮНЕСКО адзначаецца Міжнародны Дзень роднай мовы

## У пошуках «Беларускай экзотыкі»

Нядаўна ў Слонімскім краязнаўчым музеі імя І. Стаброўскага адбылася прэзентацыя аўтарскай выставы знакамітага фотамастака Сяргея Плыткевіча. Выстава называецца «Беларуская экзотыка». На яе былі запрошаны дзеячы культуры Слонімшчыны, прадстаўнікі гарадской грамадскасці, педагогі, краязнаўцы.

Сяргей Плыткевіч – галоўны рэдактар газеты «Туризм и отдых», дырэктар выдавецтва «Рифтур», галоўнай мэтай дзейнасці якога з'яўляецца азнаямленне беларусаў са скарбамі роднай зямлі, спроба запэўніць усіх і кожнага, што наша Беларусь нічым не бяднейшая за іншыя краіны на цікавыя і славутыя мясціны, імёны, а ў многім і багацейшая. У нас ёсць такая прыгажосць і такія цуды, аб якіх суседзі могуць толькі марыць.

Што ж датычыць самога Сяргея Плыткевіча, то асоба гэта насамрэч выбітная. Ён нястомны падарожнік, таленавіты фотамастак. Не памылюся, калі назаву яго знакамітым майстрам сваёй справы. Ён жа – аўтар высокамастацкіх, шыкоўных фотаальбомаў аб Беларусі – яе краявідах, самабытнай архітэктуры. «Мая Беларусь», «Беларуская экзотыка», «Палессе», «Нечаканая Беларусь» – гэтыя назвы знаёмыя кожнаму больш-менш зацікаўленаму фотасправай і краязнаўствам чалавеку, гэта кнігі, якія прыемна не толькі гартаць-чытаць, але і проста трымаць у руках. Зараз Сяргей Міхайлавіч з калегамі працуе над новым праектам – альбомам-даведнікам «Мінск за адзін дзень». Аўтарства прыгожых, адметных каляровых буклетаў з серыі «Мы адкрываем Беларусь», прысвечаных нашым гарадам, таксама належыць С. Плыткевічу. Нарэшце, гэты чалавек здолеў зрабіць любімую справу бізнесам, які дае сродкі для жыцця, што ўвогуле сустракаецца нячаста: хобі, любімая справа – адно, а праца, з якой можна жыць, – гэта іншае...

Выстава «Беларуская экзотыка» складаецца з фотаздымкаў, якія ўвайшлі ў аднайменны альбом Сяргея Плыткевіча. Арганізатары спадзяюцца, што наведвальнікі выставы ацэняць якасць такога падарунка. Дарэчы, Слонімскі краязнаўчы музей – далёка не першы прыпынак у падарожжы «Беларускай экзотыкі» па краіне. Пажадаем жа ўдалага працягу гэтага падарожжа, а Сяргею Плыткевічу – новых творчых здабыткаў у пошуках Беларусі...

**Святлана ПРАКОФ'ЕВА**

### Ліст у рэдакцыю

***Паважаная рэдакцыя!***

***Спадзяюся, што надрукуеце мой артыкул. Праблемы, пастаўленыя ў ім, узніклі даўно. Але іх ніхто не хоча заўважаць. У нас ваеннай гісторыяй займаюцца многія дзяржаўныя структуры, грамадскія арганізацыі і асобныя энтузіясты. Агульнага каардынуючага цэнтра няма. Асобна выходзіць розная літаратура, у якой нярэдка выдаецца за невядомае тое, што вядома іншым, сустракаюцца недарэчнасці і памылкі, якіх можна было б пазбегнуць.***

***Друкуючы звесткі пра краязнаўцаў, вы абышлі наш Светлагорскі раён. Між тым, дзве кнігі «Памяць. Светлагорск. Светлагорскі раён» напісаны амаль выключна краязнаўцамі, па аб'ёме яны саступаюць толькі кнізе, прысвечанай Мінску. Прычым шмат матэрыялаў засталося па-за кнігамі. У адрозненні ад іншых раёнаў краіны, дзе працавалі людзі на прафесійнай аснове, вызваленыя ад асноўнай працы, у нас кнігі ствараліся на энтузіязме.***

***У. Дз. Бурачонак***

*(Працяг тэмы на стар. 5)*

## А ў нас сёння Масленка

*А мы Масленку чакалі,*
*Ўсю нядзельку выглядалі,*
*Мы думалі,*
*Масленка сем нядзеляк,*
*Ажно Масленка*
*сем дзянёчкаў.*

На Беларусі святкаванне Масленкі пачыналася бяседным застоллем, а ў нядзелю – прабачальнай бяседай. Пасля вячэры на кут сядаў гаспадар, да яго па чарзе падыходзілі родныя і, кланяючыся, гаварылі: «Прабач, бацька родны, можа, калі што не так сказаў ці зрабіў не так». Пасля бацька кланяўся ўсім, просячы даравання за свае памылкі.

Масленкай называецца восьмы тыдзень перад Вялікаднём. У гэтым годзе масленічны тыдзень пачнецца 27 лютага. Забараняецца есці мяса, а вось бліны – сімвал сонца, цяпла, вясны – не. Спальвалі ляльку-зіму як выяву холаду, пачыналі вадзіць масленічныя карагоды, напрыклад, «Крывы танок»:

*Завядзем мы, дзяўчатачкі,*
*крывенькі танок.*
*Ой, лёлі-лёлі, рана,*
*крывенькі таночак.*
*Крывенькі таночак,*
*а ўсе дзеванькі ў кружочак,*
*Ой, лёлі-лёлі, рана,*
*дзеванькі, у кружочак.*

Месцамі, асабліва ва Усходняй Беларусі, на Масленку пачыналі гукаць вясну, аб'язджалі маладых коней, быкоў і валоў.

Усе масленічныя гулянні праходзілі на вуліцы: каталіся на санках, рабілі арэлі і гушкалі вясну – дзяўчыну, апранутую Вяснянкай. Асабліва жартавалі над тымі хлопцамі, якія не паспелі ажаніцца да Вялікага посту, ці старымі халасцякамі. Ім прывязвалі да нагі абрубак дрэва (калодку), і яны хадзілі па ўсёй вёсцы, цягаючы «калодку» і даючы выкуп жанчынам, каб іх вызвалілі. Тое ж самае рабілі і дзяўчатам. Толькі той, хто даваў выкуп, быў памілаваны.

Па-рознаму прасіліся вызваліцца ад «калодкі» хлопцы. Падышоўшы да хаты, дзе жыла дзяўчына, казалі:

*Маладая ты Анютка,*
*Выйдзі, выйдзі да нас*
*на вулку!*
*Вазьмі сыра – родзіш сына,*
*Вынесі мачку – родзіш дачку,*
*Выйдзі, выйдзі да нас*
*на вулку.*

Гуканне вясны на Масленку характэрна выказвалася ў песнях:

*Ой, вясна, вясна вясёлая,*
*Нарасла трава зялёная –*
*у-у-у!*
*Узвесяліла ўсе горачкі,*
*А дзе хлопчыкі і дзевачкі –*
*у-у-у!*
*Ідуць хлопчыкі страляючы,*
*А дзевачкі – спяваючы –*
*у-у-у!*
*Гу, вясна! Гу, красна,*
*Да што ты нам вынесла?*
*А ці сыра кусок,*
*А ці масла брусок.*

Галоўным на масленічным тыдні было вяселле з блінамі, гульнямі, забавамі, танцамі, песнямі. Кола з воза прымацоўвалі на кол, прывязвалі да яго жэрдкі, на якія чаплялі санкі. Адны круцілі кола, а другія каталіся... У масленічных гульнях удзельнічалі людзі рознага ўзросту, і аб'ядноўвала іх адзіная колавая, сяброўская карагодная гульня з песняй:

*Мы на гараньцы пабывалі,*
*Пабывалі, ай-люлі,*
*пабывалі!*
*Масленку сустракалі,*
*Сырам гору набівалі.*
*Наша горушка катліва,*
*Свякровушка варкатліва,*
*Яна на нас вурчала,*
*На горушку не пускала.*
*А нам да хаты не хочацца,*
*А пакатацца хочацца.*

***Сустракайце Масленку! Гуляйце, весяліцеся, здароўя набярыцеся.***
***Зіма пайшла плачучы, а вясна ідзе скачучы.***

*Мікола КОТАЎ,*
*фалькларыст*



## 1 сакавіка – Дзень абароны дзяцей у надзвычайных сітуацыях

**Апошнім часам, асабліва з надыходам маразоў, павялічылася колькасць пажараў. Толькі ў гэтым месяцы ў краіне згарэў адзін музей, дзве бібліятэкі. А колькі было пажараў, у якіх гінулі людзі! У тым ліку – дзеці! Таму наш агульны клопат, разам з падраздзяленнямі супрацьпажарнай бяспекі МНС зрабіць усё магчымае, каб у агні пажараў не гінулі дзеці.**

Усім дарослым трэба памятаць – багата пажараў адбываецца з-за дзіцячага свавольства. Дзіця імкнецца спазнаць гэты свет, яно цікаўнае, і агонь яго заварожвае, прыцягвае. Неабходна хаваць запалкі і запальнічкі. Адна з галоўных задач – растлумачыць усю небяспеку, якую нясе ў сабе агонь. Клопатам дзяржавы з'яўляецца захаванне здароўя і жыцця дзяцей.

1 сакавіка 2006 года ў агульнаадукацыйных установах будуць праведзены розныя мерапрыемствы, накіраваныя на павышэнне ўзроўню падрыхтаванасці педагагічнага складу і навучэнцаў да хуткіх дзеянняў пры пагрозе ўзнікнення надзвычайных сітуацый, а таксама трэніровачныя заняткі па выкарыстанні сродкаў індывідуальнай абароны, тэматычныя размовы і лекцыі па пытаннях бяспечнай жыццядзейнасці.

Паколькі асноўная задача органаў і падраздзяленняў МНС – абарона грамадзян і матэрыяльных каштоўнасцей, у Дзень абароны дзяцей супрацоўнікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях наведаюць усе школы, гімназіі і інтэрнаты для сустрэч з дзецьмі, каб расказаць ім аб сваёй працы, навучыць правільным дзеянням падчас узнікнення НС прыроднага і тэхнагеннага характару, адказаць на пытанні і проста паразмаўляць з навучэнцамі. Нашы сумесныя намаганні павінны быць накіраваны на штодзённую прафілактычную працу з дзецьмі для таго, каб, калі не выключыць, дык хаця б звесці да мінімуму колькасць пажараў па віне дзяцей, пазбегнуць няшчасных выпадкаў.

***Цэнтральны раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях г. Мінска***



***Нямігі цёплыя берагі...***

*(Упадзенне Нямігі ў Свіслач насупраць Траецкага прадмесця)*

*Фота Ўладзіміра ПУЧЫНСКАГА*




**Пракаповіч** Ігар Міхайлавіч (н. 09.12.1960, г. Паставы Віцебскай вобл.), настаўнік геаграфіі. Скончыў геаграфічны факультэт БДУ (1985). Тады і пачаў займацца краязнаўствам. Сваімі настаўнікамі лічыць Г. Каханоўскага, С. Сідора. Вывучае Пастаўшчыну. Аўтар шматлікіх артыкулаў у перыядычным друку.

Тв.: Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна. Віцебск, 1994.

**Прыхач** Уладзімір Уладзіміравіч (н. 06.08.1964, в. Закопанка Капыльскага р-на Мінскай вобл.). Скончыў матэматычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта (1986). Працаваў настаўнікам Гамзіцкай БШ Смаргонскага раёна (1987–1990), дырэктарам Мілейкаўскай БШ (1990–1999). Краязнаўствам пачаў займацца ў 1989 г. на Смаргоншчыне падчас вывучэння мінуўшчыны Крэўскага замка. Сваімі настаўнікамі лічыць Г. Каханоўскага, М. Ермаловіча, М. Казлова. Вывучае падзеі Першай сусветнай вайны на Смаргоншчыне, татарскую спадчыну края, славутыя імёны Смаргоншчыны, асабліва – род Станкевічаў. Прымаў удзел у стварэнні краязнаўчага музея ў Мілейкаўскай БШ (1990–1992), Крэўскай СШ (1999–2000). Аўтар шматлікіх артыкулаў у навуковым і перыядычным друку.

**Пяткевіч** Аляксей Міхайлавіч (н. 30.03.1931, мяст. Новы Свержань Стаўбцоўскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.), загадчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. Скончыў БДУ (1954). Краязнаўствам займаецца з 1968 г. Сваімі настаўнікамі лічыць Г. Каханоўскага, У. Урбановіча, А. Кіркевіча. Даследуе літаратуру і культуру Гродзеншчыны. Выступае з артыкуламі ў друку.

Тв.: Літаратурнымі Гродзеншчына. Мн., 1996; Пісьменнікі прынёманскага краю. Гродна, 1986 і інш.



*І. Пракаповіч*



*У. Прыхач*



*А. Пяткевіч*




***Летам 2005 года сябрамі розных грамадскіх аб'яднанняў Пастаўшчыны было задумана стварыць пабудову для ўшанавання хрысціянскіх традыцый нашых продкаў. Ініцыятарам і галоўным натхняльнікам быў актыўны руплівец беларушчыны, рэдактар часопіса «Нашы карані» Міхась Гіль і, у пэўнай ступені, краязнавец Алесь Гарбуль. Па іх просьбе вядомым беларускім мастаком, сябрам суполкі «Пагоня», клуба «Спадчына», БГА «Ветэраны адраджэньня» і ТБМ імя Францішкі Скарыны, Алесем Цыркуновым быў выкананы мастацкі праект будучага помніка. Эскізны праект быў узгоднены як з мясцовай уладай, так і з каталіцкім духавенствам. Актыўная праца над яго стварэннем была распачата толькі ў верасні. Чынны ўдзел у стварэнні культавага збудавання прынялі, акрамя аўтара праекта, мясцовы прадпрымальнік, актыўны руплівец па адраджэнні нашай спадчыны Уладэк Іванковіч, які найбольш дапамог матэрыяльнымі сродкамі ды рабочымі, вядомы народны майстар з Паставаў Юрась Фурс (адмыслова выканаў усю кавальскую аздобу да гэтага помніка), вядомы дзеяч з Астравеччыны Стэфан Казлоўскі выразаў з дрэва фігурку Хрыста.***

Нарэшце на свята Дзядоў – 2 лістапада 2005 года – на раннехрысціянскіх могілках у вёсцы Радута, што непадалёк ад мястэчка Лынтупы (Пастаўскі раён), пробашчам касцёла Святога Андрэя, ксяндзом Паўлам была асвечана Каплічная Брама. На гэтую ўрачыстасць сабралася шмат вернікаў як з навакольных вёсак, так і здалёку. Пасля асвячэння адбылося імправізаванае ўшанаванне, прысвечанае адкрыццю помніка, а на заключэнне прагучаў гімн на словы Наталлі Арсенневай «Магутны Божа».

Археолагі з Акадэміі навук Эдвард Зайкоўскі і Людміла Дучыц дапускаюць, што на месцы курганнага могільніка ў вёсцы Радута ў старажытныя часы знаходзілася язычніцкае капішча. Варта адзначыць, што назва вёскі мае старажытна-балцкае паходжанне і звязана з міфалагічнай багіняй світанку, кахання, свету памерлых, абуджэння і паміранне прыроды, жонкай бога памерлых Вялеса – багіняй Радутай. У познім сярэднявеччы на гэтым месцы быў створаны раннехрысціянскі могільнік, які таксама называюць «жальнікам». Аб гэтым сведчаць глыбока ўрослыя ў зямлю каменныя валуны, апрацаваныя ўручную з ледзь бачнымі знакамі крыжа. Мясцовы жыхар вёскі Радуты Баляслаў Фабіянавіч Кібіцкі памятае, як ў часы Другой сусветнай вайны на гэтым кургане было пахавана сем немцаў, пра ранейшыя пахаванні яму расказвала суседка, прадзеды якой тут знайшлі апошні прыстанак.

Для аўтара Каплічнай Брамы такая самаахвярная, дабрачынная дзейнасць з'яўляецца святым абавязкам сапраўднага патрыёта і грамадзяніна, які павінен дбаць найперш аб будучыні сваёй Айчыны. Пры гэтым ён мусіць увекавечыць усімі магчымымі і немагчымымі сродкамі як слаўныя старонкі яе гісторыі, так і асобных яе прадстаўнікоў. Аб чым сцвярджае і гэты чарговы, пяты па ліку, твор аўтара.

У Беларусі вядома некалькі аналагічных курганоў, але гэты – адзіны старажытны хрысціянскі могільнік, ушанаваны памятным знакам.

Каплічная Брама – незвычайная па форме пабудова, якая адначасова нагадвае і браму, і алтар (ці ахвярнік), на якім размешчана шыльда з надпісам лацінскімі літарамі:

*«Kapličnaja Brama.*
*Tut znachodzicca*
*chryścijanski mohilnik*
*XIV–XVIII stst.*
*Pomnik archeałohii.*
*Achoŭvajecca dziaržavaj.*
*Hospadzie, bagasłavi i*
*supakoj dušy słuhaŭ Tvaich.*
*Šanujma Hospada našaha*
*Jezusa Chrystussa i prodkaŭ*
*našych!»*

Над своеасаблівым алтаром узвышаюцца, пераходзячы адзін у другі, два крыжы: шасціканцовы патрыяршы крыж і лацінскі крыж з паўмесяцам, які сімвалізуе каўчэг. Тут жа і распяцце Хрыста на крыжы, выкананае Стэфанам Казлоўскім у народным стылі. Дэкаратыўнае аздабленне помніка сугучнае раннехрысціянскай культуры, напоўнена хрысціянскімі і купальскімі знакамі. Каплічная Брама наскрозь прасякнута сімвалічнымі значэннямі. Галава Хрыста ачолена калючым дротам, прывезеным са сталінскіх канцлагераў Сібіры. Бакавіны даха ўпрыгожаны дванаццаццю крыжамі: узвышаючыся над ім, яны сімвалізуюць дванаццаць апосталаў.

Аўтар Каплічнай Брамы, захоўваючы традыцыі беларускага драўлянага дойлідства, унёс у культавае збудаванне адметныя стылявыя рысы як у арнаментальным аздабленні, так і ў кампазіцыйнай пабудове. Гарманічныя пастаровыя суадносіны, удала выбранае месца помніка адносна сонца, дрэў, каменных валуноў сведчаць аб высокапрафесійным мастацкім падыходзе, які ўласцівы творам Алеся Цыркунова.

***Наста СВІКРОС,***
***магістр***
***мастацтвазнаўства***





*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**МАНЕТНАЯ І ЛІКАВА-ГРАШОВАЯ СІСТЭМА.** У ВКЛ асноўнымі адзінкамі яе ў XVI ст. былі пенязь, паўгрош, талер і дукат. Манеты з большым наміналам былі зборныя да больш дробных (напрыклад, пенязь адносна 2 паўпенязяў, грош – 2 паўгрошаў або 3 шэлегаў і інш.). Лікавыя адзінкі – злоты, грыўня, вердунок, квартнік, капа, рубель і інш. Істотная розніца ў рэальнай вартасці грошаў ВКЛ, чэшскіх і польскіх вызначылі бытаванне адпаведных сістэм лічбаў (лікаў): дробнай (першае 10-годдзе XVI ст), паўгрошавай (першая трэць XVI ст.), літоўскай (на працягу ўсяго стагоддзя) для літоўскай чаканкі і інш.

**МАРКА** (ням. знак) – сярэбраныя манеты Лівоніі, акупаванай войскам Рэчы Паспалітай у час Лівонскай вайны 1558–1588 гг. Выпускаліся ў 1573 г. наміналамі 0,5 і 1 маркай, мелі ўжытак на паўночных беларускіх землях паводле курсу троякаў і шасткоў ВКЛ.

**МАРШАЛАК** – вышэйшая службовая асоба ў ВКЛ і феадальнай Польшчы. Маршалак земскі сачыў за парадкам і этыкетам пры двары вялікага князя, быў старшынёй на пасяджэннях рады і сейма, абвяшчаў рашэнні гэтых органаў і вялікага князя, дапускаў да аўдыенцыі замежных паслоў, судзіў за злачынствы, учыненыя на сейме, распараджаўся размяшчэннем дэпутаў сейма і іншых асоб, якія прыбывалі да вялікага князя. Маршалак дворны быў намеснікам земскага і адначасова начальнікам гаспадарскіх дваран, што служылі пры двары вялікага князя. Маршалак павятовы – камандзір павятовага войска. Маршалкам называўся і старшыня Трыбунала ВКЛ.

**МАСТАВОЕ** – плата за праезд цераз мост ці грэблю. На беларускіх землях вядома з XII ст. Бралася па даўнім звычаі тым, хто будаваў за свой кошт мост. Будаўнік быў і адказны за стан маста ці грэблі. З яго маглі спагнаць штраф, калі праезджаму ці яго маёмасці прычынялася шкода. Сума маставога строга кантралявалася, спагнаннік не мог вольна вызначаць яго ў сваіх карыслівых інтарэсах.

**МАСТАЎНІЧЫ** – шляхціц, службовец ВКЛ, які сачыў за станам дарог, мастоў, грэбляў і ўваходзіў у склад земскіх ураднікаў. Шляхта мела прывілеі і была вызвалена ад розных дарожных работ.

**МАЦЯРЫЗНА** – спадчына па мацярынскай лініі, якую паводле Статута ВКЛ браты павінны былі пароўну дзяліць з сёстрамі.

**МАЯРАТ** (позналац. большы, старэйшы) – а) парадак атрымання ў спадчыну непадзельнай рухомай маёмасці старэйшым у сям'і альбо ў родзе дзеля таго, каб не драбніць гаспадарку; б) маёнтак, які перадаваўся ва ўласнасць паводле гэтага закона.

**МЕЖАВЫЯ ЗНАКІ** – спецыяльныя знакі для пазначэння і замацавання межаў зямельных надзелаў, уладанняў. Ужываліся дукт (межавая лінія) і капец (земляны насып). Аснову насыпу звычайна абкладалі кавалкамі шкла ці камянямі. Капец на рагу поля, ад якога пачыналі абмер і размежаванне суседзяў, называлі нарогавым. Межавыя знакі ўстаноўлівалі падкаморы, каморнікі, мернікі.

**МЕЗЛЕВА** – натуральны падатак, які сяляне ВКЛ у XIV–XV стст. плацілі магнатам. Звычайна гэта былі мяса, яйкі, а таксама маглі выдаткоўваць і мёд, упаляванае. З XV ст. феадалы пачалі разам з прадуктамі спаганяць і грошы.

**МЕЛЬНІЦКІ АКТ** 1501 г. – дакумент пра ўмовы уніі Польшчы і ВКЛ, падпісаны ў г. Мельнік польскім каралём Аляксандрам і яго прыхільнікамі. Выкарыстаўшы цяжкае эканамічнае становішча ВКЛ у выніку яго войн з Маскоўскай дзяржавай, польскія кіруючыя колы зрабілі ход, каб зліць Польшчу і ВКЛ у адну дзяржаву з агульным каралём, сеймам і адной грашовай сістэмай, але з рознымі судамі і суддзямі. Гэты акт фактычна ліквідоўваў самастойнасць ВКЛ. Сейм ВКЛ не зацвердзіў яго, і ён страціў юрыдычную сілу.

***Двухмоўе, шматмоўе – даволі распаўсюджаныя тэрміны ў навуковай і публіцыстычнай літаратуры. Шырока карысталіся імі ў савецкі час, на што былі свае прычыны: ва ўсіх саюзных і аўтаномных рэспубліках пазіцыю за пазіцыяй заваёўвала руская мова. Не радасць, а трывогу выклікала гэта ў нацыянальна скіраваных палітычных дзеячаў і інтэлігенцыі. Такія моўныя працэсы вітала толькі кіраўніцтва БССР, тлумачачы вуснамі сваіх шматлікіх ідэолагаў, што гэта забяспечыць нечуваны росквіт нацыянальнай культуры.***

***Асаблівая занепакоенасць у нацыянальнай інтэлігенцыі саюзных рэспублік пачала ўзнікаць пасля таго, як руская мова з грамадска-палітычнай, вытворча-эканамічнай сферы стала паступова пераходзіць і на культурную ніву. «Гэта ж ужо непрыхаваная асіміляцыя!» – заяўлялі самыя дальнабачныя і смелыя людзі. Праўда, публічна прызнаць, што яна з'яўляецца ўзаконенай цэнтральным звяном нацыянальнай палітыкі КПСС, сфармуляванай у такіх папулярных на той час словах: «збліжэнне і зліццё савецкіх нацый і народнасцяў» – мала хто адважваўся.***

# Афіцыйнае двухмоўе на Беларусі:
## рэальнасць ці дысбаланс?

Каб не дапусціць канфліктаў з-за шырокага пранікнення рускай мовы на тэрыторыю рэспублік, іх народам стараліся ўсяляк данесці пра выключна прагрэсіўнае значэнне двухмоўя як на афіцыйным, так і на міжасобасным узроўнях. Толькі ў пазітыўным плане падавалася выкарыстанне нацыянальнымі аўтарамі рускай мовы пры напісанні твораў мастацкай літаратуры. Пры чым сустракаліся такія гора-тэарэтыкі, якія гэтыя творы адносілі нават да нацыянальнай літаратуры, з чым, вядома, не пагаджаліся людзі з цвярозым розумам. Не падзяляючы згубную нацыянальную палітыку КПСС, грузінскі літаратурны крытык Уладзімір Мачаварыяні ўжо ў 1960-я гады прыйшоў да цвёрдай высновы, што двухмоўе ўяўляе сабою рэальную пагрозу для існавання нацыянальных моў. Трохі пазней, набыўшы яшчэ большага досведу ў даследаванні дадзенай праблемы, ён піша: «Гарманічнае развіццё нашага грамадства не можа весці да двухмоўя ў творчасці. Само двухмоўе ў творчасці – гэта дысгармонія».

Акрамя школы, нічога іншага не бачыў у літаратурным двухмоўі асецінскі пісьменнік Нафі Джусойты. У той няпросты час у яго хапіла смеласці заявіць, «што нацыянальная літаратура можа існаваць толькі на нацыянальнай мове, што стварэнне нацыянальнай літаратурнай традыцыі на іншанацыянальнай мове – фікцыя. (...) існаванне нацыянальнай літаратуры толькі тады магчыма, калі яна ствараецца на мове дадзенай нацыі, народа».

Нешта падобнае па гэтай праблеме ў СССР можна было сустрэць і ў творах замежных аўтараў, у прыватнасці, у заходнегерманскага навукоўца Стэнлі Вардэйса, які пісаў: «Сталае прасоўванне рускай мовы служыць растучай пагрозай для нацыянальных моўных культур».

Здыяметральна процілеглых пазіцый глядзела на двухмоўе большасць партыйна-савецкіх работнікаў і інтэлігенцыі Беларусі. Калі ва ўсіх саюзных і аўтаномных рэспубліках у ім бачылі небяспеку для нацыянальных культур, у нас яно лічылася галоўнай перашкодай для франтальнага, якаснага засваення рускай мовы ўсім народам, прычынай захавання ў яго рускамоўнай гаворцы многіх слоў і выразаў з роднай мовы. За ўсё гэта вельмі шмат абвінавачванняў сыпалася на вёску, як на прыродны генератар беларускай мовы. З мэтай падрыву беларускамоўных асноў сельскай мясцовасці быў узяты курс на перавод усіх беларускамоўных агульнаадукацыйных школ раённых цэнтраў, старэйшыя класы якіх наведвала і шмат вясковых дзяцей, на рускую мову навучання. Раней такой антынацыянальнай практыкай займаліся толькі ў сталіцы БССР, абласных цэнтрах і самых буйных гарадах. Мэце падрыву спрадвечнай беларускасці вёскі паслужыў і перавод у 1962 годзе спецыяльна прызначанай для яе газеты «Калгасная праўда» з роднай мовы на рускую.

Ці з жалю, ці па якіх-небудзь іншых прычынах стараліся дапамагчы беларусам знайсці правільнае рашэнне моўнага пытання навукоўцы з іншых рэспублік. Не змачуаў і адзін з самых буйных савецкіх спецыялістаў у галіне сацыялінгвістыкі К. Ханазараў (Узбекістан), сфармуляваўшы наступным чынам свой погляд: «Блізкасць рускай, украінскай і беларускай моваў не пацвярджае адмаўленне дзвюх апошніх моваў...». А наш народ з лёгкай рукі кіраўнікоў рэспублікі так актыўна цураўся роднага слова, што меў пахвальбу за гэта ад самога першага сакратара ЦК КПСС Мікіты Хрушчова.

Другі апякун беларусаў, М. Шытоў, крытыкаваў іх разам з татарамі, карэламі, асецінамі за рэзкае скарачэнне школ на роднай мове, бо, відаць, як і многія іншыя навукоўцы, справядліва лічыў, што без нацыянальнай адукацыі ў народа няма будучыні. Нібыта беларусам былі адрасаваны і наступныя словы з кнігі «Социология и идеология» (М., 1969): «... духоўны прагрэс нацыі немажлівы без развіцця нацыянальнай культуры, без развіцця мовы».

Беларускі народ не прыслухаўся да гэтых разумных парадаў, бо зусім іншаму вучылі яго партыйныя ідэолагі. І давучылі да таго, што двухмоўе ў беларусаў сталася самым зваротлівым, паколькі ў ім моцна прэвалірае рускі фактар. Такога «шчасця» не зведаў ніводны тытульны народ саюзных рэспублік. І як вынік, гарбачоўская перабудова заспела беларусаў, як ніякую іншую савецкую нацыю, на самай высокай ступені русіфікацыі. У іх практычна цалкам адсутнічала афіцыйнае двухмоўе. Білінгвізм – і то зрэдку – прысутнічаў толькі ў неафіцыйных зносінах дастаткова адукаваных людзей. Пераважная ж большасць народа ў грамадскім жыцці карысталася рускай мовай. Пад гэты час яна добра ўсталявалася і ў сельскай мясцовасці. Таму не дзіўна, калі ў ходзе ажыццяўлення звязаных з перабудовай мерапрыемстваў загаварылі пра неабходнасць пераходу да афіцыйнага двухмоўя, не толькі кіраўніцтва, але і многія людзі заяўлялі, што на Беларусі ў ім няма ніякай патрэбы, паколькі тут ужо ўсе даволі добра ведаюць рускую мову. Пагадзіцца з гэтым азначала б стварыць усе неабходныя варункі для хуткага і поўнага завяршэння русіфікацыі беларускага народа. І хоць аўтар дадзеных радкоў праціўнік афіцыйнага двухмоўя ў краіне з адной тытульнай нацыяй (а Беларусь акурат і належыць да такіх краін), ён у той час актыўна выступаў на старонках перыядычнага друку за правядзенне менавіта такой моўнай палітыкі, бо лічыў афіцыйнае двухмоўе намнога меншым злом, чым непадзельнае панаванне ў нашым грамадскім жыцці выключна адной толькі рускай мовы. У падобнай сітуацыі ніводная сіла не змагла б уратаваць беларускі народ ад немінучага этнічнага вымірання.




*Мінск. Гістарычны цэнтр. Пачатак XXI стагоддзя*

***Леанід ЛЫЧ,***
***доктар гістарычных навук, прафесар***

*(Працяг будзе)*





*Факультатыў*

# Свет ад травы да зор

***Цыкл урокаў «Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу»***

## «Над Белай Руссю – белы снег...»

*(Заканчэнне. Пачатак у № 1–7 за 2006 год)*

Сёння вобраз зімы набывае і глабальны сімваліка-алегарычны сэнс. Пасля шматлікіх экалагічных бед, чарнобыльскай атамнай катастрофы перад нашым народам і ўсім чалавецтвам асабліва востра паўстала праблема выжывання.

З-за пацяплення клімату на планеце, пагаршэння агульнага стану экалогіі прырода стала паводзіць сябе непрадказальна: «Завітала зіма. Толькі снегу ні ў полі, Ні ў лесе няма» (А. Пысін. «Зноў з вятрамі паўночнымі...»). Нават студзень і люты, самыя халодныя зімнія месяцы, сталі дажджлівымі, імжыстымі, падобнымі да восені. Напрыклад, не парадавала зіма 1990-га Максіма Танка: «Ні сіверу, ні снегу. Такой зімы – казалі мне – Не помняць Ні векавыя старкі – сосны, Ні лугі, ні рэкі, Ні звяры і птушкі...» («Зіма 1990 года»). Паэты з настальгіяй пішуць пра снег, сумуюць па зімовай казцы, бачаць у бясснежнасці нядобры знак. Снежная зіма, як вядома, на добры ўраджай, а калі няма снегу, то жыць «наканавана ў жабрацкім годзе». Вось як сумна-трывожна перажывае страту зімы Васіль Вітка ў адным са сваіх вершаў: «...і сіротамі сталіся мы, І без сустрэчы, і без праводзін, Без мілай матухны нашай – зімы» («Мы без зімы»).

Такім чынам, зіма – адна з самастойных і значных тэм у беларускай пейзажнай лірыцы. Вобраз зімы, трывала ўвайшоўшы ў сістэму мастацкага мыслення, набыў шматзначную сэнсавую трактоўку. Ён стаў алегарычным і сімваліка-філасофскім увасабленнем гістарычных часоў, падзей, канцэпцый быцця. Праз зімовыя матывы і вобразы лірычнае слова яскрава выявіла драматызм, трагедыйнасць быцця асобы і ўсяго чалавецтва. Беларуская літаратура XX ст. выпрацавала глыбокую паэтычную філасофію зімы, што сведчыць пра яе арыгінальнасць, высокі эстэтычны ўзровень мыслення.

*Алесь БЕЛЬСКІ*




# Асобы ВКЛ XVI стагоддзя

***Па меры таго, як прыкладна з 1246 г. пачало ўтварацца, шырыцца, багацець і мацнець ВКЛ (асабліва бурна пры вялікіх князях Гедзіміне (каля 1275 – 1341), яго сынах Альгердзе (1296–1377) і Кейстуце (? – 1382), а пры ўнуку Вітаўце (1350–1430) дасягнула найбольшых сілы і росквіту), пачаўся і працэс фармавання значных, выдатных асоб краіны, вядомых далёка за яе межамі. Палітыка далучэння і аб'яднання памежных зямель, неабходнасць моцнай улады, умоў для развіцця эканомікі, гандлю, супраціўленне агрэсіям былі грунтам, на аснове якога раслі, набывалі моц і аўтарытэт палітыка-дзяржаўныя, ваенныя, найбольш выбітнога складу людзі. Яны за самаадданасць, поспехі і заслугі станавіліся Асобамі.***

***Пасля смерці Вітаўта і ўзмоцненага палітычнага і ваеннага націску Маскоўскага княства, якое пасля вызвалення ад татарскай няволі абвясціла прэтэнзіі на ўсе славянскія землі, ім было нялёгка, часамі вельмі цяжка: пачаліся бясконцыя войны канца XV – 1-й пал. XVI стст., агрэсія Турцыі (супраць саюзнай Польшчы) ды Крымскага ханства, задоўжылася многімі бітвамі на нашай зямлі Лівонская вайна 1558–1583 гг. Гэта значна аслабіла ВКЛ, і яно, шукаючы паратунку, мусіла пайсці на больш цесны і, на жаль, пройгрышны ў шмат чым саюз з адужэлай Польшчай, якая выкарыстала гістарычны шанец яшчэ больш аслабіць ВКЛ (Люблінская унія 1569 г.). Ды і такое складанае XVI ст. не магло не нарадзіць у ВКЛ буйных дзеячаў, большасць якіх былі не проста нашымі землякамі, а карэннымі па духу.***

### Дзяржаўныя і вайсковыя мужы

Пасля трагічнага адыходу з гэтага свету, як падкрэсліваў расійскі гісторык М. Карамзін, аднаго з самых выбітных і грозных дзяржаўцаў таго часу ў Еўропе, Вітаўта Вялікага, вызначыліся:

**К. Астрожскі** (каля 1430 – 1530) – славуты палкаводзец у барацьбе з крымскімі татарамі, з агрэсіяй цара Івана III у 1500–1508 гг., кіраўнік войскамі ВКЛ у славутай Аршанскай бітве 1508 г. і далейшых бітвах з Маскоўскай дзяржавай;

**М. Радзівіл Чорны** (1515–1566) – дзяржаўны дзеяч, адзін час быў нават на чале ВКЛ, рэфарматар, кіраўнік правядзення валочнай памеры, адзін з вядомых змагароў супраць крымскіх татар і побач з ваеннымі справамі адзін з заснавальнікаў у 1563 г. друкарні ў Брэсце;

**К. Радзівіл Пярун** (1547–1603) – камандуючы войскам ВКЛ у Лівонскай вайне, удзельнік вызвалення Полацка ў 1579-м, выступаў супраць Люблінскай уніі, дамагаўся «вечнага міру» з Расіяй, а таксама не радавы (шэраговы) удзельнік баёў супраць экспансіі на славянскія землі Швецыі;

**М.К. Радзівіл Сіротка** (1549–1616) – змагар за інтарэсы ВКЛ у Лівонскай вайне, заснавальнік нясвіжскага роду Радзівілаў. І гэты іхні нашчадак вызначыўся не толькі збройным чынам, а і мірным, цывілізаваным – у 1582 г. пачаў з беларускай зямлі сваё азнаямленне з замежжам, здзейсніў падарожжа на Блізкі Усход, быў у Венецыі, на Кіпры, у Трыпалі, Егіпце, Іерусаліме і ў 1601-м выдаў свой на той час знакаміты падарожны дзённік. Ён даволі аб'ёмісты, яго можна з захапленнем чытаць і сёння.

Апроч Радзівілаў, у дзяржаўных і палкаводчых стасунках і варунках ярка заявілі пра сябе:

**Г. Хадкевіч** (1510–1572) – удзельнік баёў у Інфлянтах на пачатку 1560-х, абаронца беларускіх гарадоў ад нападу войск цара Івана IV;

**Р. Сангушка** (1537–1571), які паспяхова ваяваў з крымскімі татарамі, браў удзел у Лівонскай вайне і адстойваў незалежнасць ВКЛ;

**Л. Сапега** (1557–1633) – канцлер ВКЛ, удзельнік Лівонскай вайны, неаднаразова ўзначальваў пасольства ў Маскву, дзе вёў няпростыя перамовы, удзельнік вайны са Швецыяй, шмат зрабіў па ўпарадкаванні дзяржаўнага архіва ВКЛ (Метрыка ВКЛ), адзін з ініцыятараў выдання Статута ВКЛ 1588 г;

**Я.К. Хадкевіч** (1560–1621) – адзін з самых таленавітых палкаводцаў ВКЛ, удзельнік войн з Малдавіяй, Швецыяй (за панаванне на Балтыйскім моры), Маскоўскім царствам, Турцыяй, з крымскімі татарамі і інш.

### Дзеячы культуры

Як вядома, да XVI ст. у справе пазнання сваёй гісторыі і культуры вялікую справу зрабілі багатая вусная народная творчасць нашых прадзедаў. З X ст. шырокая далучанасць да пісьменства, перапісванне рукапісных кніг і прапаганда ведаў (тут роля палачанкі Е. Полацкай неацэнная), школы, бібліятэкі пры княскіх і манастырскіх дварах, жыціі, «хаджэнні», пераклады з чужаземных моў, а з XIV ст. і навучанне маладых нашых землякоў у лепшых еўрапейскіх універсітэтах і засваенне імі сусветнай культуры. Неацэнную ролю меў Судзебнік 1468 г. – першы кодэкс крымінальнага і працэсуальнага права ВКЛ, напісаны на тагачаснай беларускай мове: калі мова мае дзяржаўны ўжытак, то яна ва ўсіх сферах ўдасканальваецца сама і ва ўсіх сферах удасканальвае дзяржаву – да таго, што ўсё гэта пачынаюць вывучаць іншыя народы, перакладаць і браць на сваё духоўнае ўзбагачэнне. У XVI ст. беларус глыбока спазнаў Еўропу, і Еўропа высока ацаніла яго (не толькі Ф. Скарына і М. Гусоўскі).

Першая чвэрць XVI ст. азнаменавалася выдатнымі дасягненнямі і еўрапейскай вядомасцю культуры ВКЛ: кнігадрукаваннем, асветніцтвам, эстэтычна-філасофскімі поглядамі Ф. Скарыны (каля 1490 – каля 1551), паэмай Я. Вісліцкага (каля 1485 – 1520) пра Грунвальдскую бітву «Пруская вайна», паэмай М. Гусоўскага (1470 – 1480-я – пасля 1533) «Песня пра зубра».

Слыннымі для свайго часу былі ды і для нашага ёсць:

**А. Валовіч** (каля 1520–1587) – дзяржаўны дзеяч і адзін з арганізатараў падрыхтоўкі Статута ВКЛ 1566 г.;

**С. Будны** (1530–1593) – асветнік, філолаг, гісторык ВКЛ, заснавальнік з Л. Крышкоўскім і М. Кавячынскім Нясвіжскай друкарні, дзе ў 1562 г. на беларускай мове выдаў «Катэхізіс», што пэўны час быў падручнікам-букваром;

**Я. Ласіцкі** (каля 1534 – пасля 1599) – гісторык і рэлігійны дзеяч, апісальнік беларускіх сямейных абрадаў, народнага адзення, страў, асаблівасцей полацкай архітэктуры;

**І. Пацей** (1541–1613) – пісьменнік-палеміст, грамадскі і царкоўны дзеяч, уніяцкі мітрапаліт;

**А. Рымша** (каля 1550 – каля 1599) – заснавальнік панегірычнай паэзіі ў старажытнай беларускай літаратуры;

**С. Рысінскі** (каля 1560 – 1625) – беларускі і польскі паэт-лацініст, вызначыўся тым, што перакладаў на лацінскую мову вершы А. Рымшы, сабраў, выдаў каля 1 800 беларускіх прымавак і параўнаў іх з лацінскімі, нямецкімі, італьянскімі і інш., з выказваннямі-выслоўямі антычных і сярэдневяковых аўтараў;

**Я. Руцкі** (1574–1637) – пісьменнік-палеміст, педагог, рэлігійны дзеяч, хацеў разам з праваслаўнымі стварыць у ВКЛ патрыярхат...

Шматкроп'е ў папярэднім сказе пастаўлена не выпадкова: было і яшчэ нямала іншых дзяржаўна-ваенных асоб, дзеячаў культуры, што сумесна сваімі фізічнымі і духоўнымі намаганнямі прынеслі XVI ст. славу «залатога веку» ў беларускасці (так яго і большую частку XVII ст. азначыў Я. Цадроўскі (каля 1617 – каля 1682) – службовец у Радзівілаў, падарожнік па Еўропе, дэпутат у судзе ВКЛ, аўтар цікавых успамінаў).



*Вільня на гравюры XVI ст. — палітычны і культурны цэнтр ВКЛ*

***Пра некаторых вышэйназваных асоб мы пісалі летась, пра некаторых будзем пісаць у самых бліжэйшых нумарах «Краязнаўчай газеты».***

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*





***Адышоў у гісторыю 2005 год, адной са значных падзей якога з'явілася святкаванне 60-годдзя перамогі над фашызмам – агульнага свята ўсіх народаў свету, якія прынялі ўдзел у барацьбе і разгроме нямецка-фашысцкіх войскаў, выратаванні чалавецтва ад карычневай чумы.***

***Да гэтай знамянальнай даты скончылася выданне шматтомнай гісторыка-дакументальнай серыі кніг «Памяць», асноўную частку якіх складаюць матэрыялы пра падзеі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Доўгі час гучаў лозунг «Ніхто не забыты, нішто не забыта!». У кнігах зроблена спроба ўвекавечыць памяць аб усіх загінулых воінах-земляках, партызанах, падпольшчыках, мірных жыхарах – ахвярах фашызму, байцах і камандзірах Чырвонай Арміі, якія аддалі свае жыцці падчас абароны і вызвалення Беларусі. Аб цяжкасцях арганізацыі працы па стварэнні кніг на старонках газеты расказаў гісторык Віталь Уладзіміравіч Скалабан (№ 15 (80). Гісторыка-дакументальная хроніка гарадоў і раёнаў Беларусі «Памяць». Эвалюцыя краязнаўчага выдання).***

# Ці зменшыцца краязнаўчы рух у Беларусі пасля выхаду кніг серыі «Памяць»?

Зроблены вялікі штуршок наперад у справе развіцця гістарычнай навукі і краязнаўства ў Беларусі, якога дагэтуль не было. Кнігі стваралі розныя людзі. Можа, таму і якасць кніг розная. Недзе атрымалася лепш, недзе горш, сустракаюцца недахопы, недакладнасці і памылкі. Ёсць выпадкі, калі апісаныя падзеі не зусім адпавядаюць рэчаіснасці, ці адбываліся ў іншых месцах. Мне давялося ўдзельнічаць у стварэнні некалькіх кніг, правесці асноўную працу па кнізе «Памяць. Светлагорск. Светлагорскі раён», таму добра ведаю, з якімі цяжкасцямі прыйшлося сутыкацца ў час збору матэрыялаў: поўная адсутнасць часу, элементарных умоў, перабоі ў фінансаванні. З гэтых прычын мы не змаглі выканаць усяго запланаванага.

Гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны займаюся з дзяцінства, сабраў вялікі матэрыял. Зараз пры аглядзе раённых і гарадскіх кніг напрошваецца вывад – многія нарысы можна было напісаць лепш. Тым не менш, усім тым, хто прыняў удзел у стварэнні кніг серыі «Памяць», трэба сказаць вялікі дзякуй за высакародную працу і выкананне грамадзянскага абавязку.

Зроблены хоць і значны, але толькі першы крок. Ці ўсе магчымасці выкарыстаны? Напрыклад, возьмем Светлагорскі раён. Пералічаны амаль усе, хто не вярнуўся з франтоў і загінуў на акупаванай тэрыторыі. Што тычыцца байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, загінулых падчас абароны і вызвалення раёна, то за аснову бралі звесткі райваенкамата. Аднак, нават невялікая пошукавая праца дапоўнілася прозвішчамі яшчэ 57 ваеннаслужачых. А іх можа аказацца некалькі тысяч. Тое ж самае і ў іншых раёнах Беларусі. Неабходна адпаведным дзяржаўным установам больш цесна ўзаемадзейнічаць з Цэнтральным архівам Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі.

У некаторых раёнах па ініцыятыве «знізу» праца па дапаўненні кніг працягваецца. У Гомельскай вобласці напісаны дадатковыя кнігі па Рагачоўскім і Рэчыцкім раёнах. Ды вось бяда – для іх выдання няма сродкаў.

Зараз вялікая ўвага з боку ўрада надаецца ідэалагічнай рабоце. Ідэалогія – гэта сістэма палітычных, прававых, філасофскіх, рэлігійна-эстэтычных ідэй і поглядаў, у якіх адлюстроўваюцца адносіны людзей паміж сабой і рэчаіснасцю, карэнныя інтарэсы, меры і памеры сацыяльных груп, класаў, партый, суб'ектаў палітыкі і ўлады.

Ідэалогія беларускага народа хаваецца ў яго шматпакутнай гісторыі. Тэрыторыя Беларусі займае стратэгічнае становішча ў Еўропе. Тут адбыліся шматлікія войны, якія прынеслі нашаму народу вялізныя людскія і матэрыяльныя страты. І гэта пры тым, што беларусы не вялі захопніцкіх войн, не прэтэндавалі на чужыя тэрыторыі. Народ будаваў сваё жыццё, змагаўся з чарговай навалай, нёс шматлікія страты, выносіў цяжар чарговай вайны, зноў адбудоўваў гаспадарку і заўсёды верыў у лепшае жыццё.

Чым былі моцныя старажытныя славяне? Яны памяталі сваіх продкаў да чацвёртага калена, іх добрыя справы. Нават і да сённяшняга дня захаваліся быліны пра цуда-волатаў, якія абаранялі сваю зямлю, не давалі ворагам крыўдзіць народ. Захаваць гісторыю і памяць аб продках, выхоўваць патрыятызм у насельніцтва, з павагай адносіцца да суседніх народаў – вось накірункі, якія прызваны вырашаць кнігі серыі «Памяць» і падобныя выданні, фактычна выконваючы адну з задач ідэалогіі. Ідэалогія сёння – гэта ідэя згуртавання ўсіх прадстаўнікоў беларускага народа дзеля стварэння моцнай дзяржавы, якая б падтрымлівала добразычлівыя адносіны ва ўсіх сферах дзейнасці з міралюбівымі краінамі свету. І шкадаваць сродкі для выдання патрыятычных кніг няправільна. Бываюць выпадкі, што на месцах да канца не разумеюць ролю такіх кніг, якія карыстаюцца попытам сярод мясцовага насельніцтва. У некаторых раёнах, як у нашым, кніга не пайшла ў продаж і не стала набыткам шырокага кола чытачоў.

Лагічным завяршэннем серыі стаў выхад кнігі «Памяць Беларусі». Нягледзячы на тое, што яе рыхтаваў вопытны калектыў, і тут не абыйшлося без недакладнасцей. Магчыма, адбіўся кароткі тэрмін падрыхтоўкі да выдання, што не дало магчымасці для пераправеркі матэрыялаў. Так, старонка 196 (Мёрскі раён): на фотаздымку камандзір брыгады «Кастрычнік» Ф.К. Юрчанка («Вятроў») сядзіць злева, а не ў цэнтры, у цэнтры – прадстаўнік Вілейскага падпольнага абкама КП(б)Б А.І. Далгіх, справа – камісар брыгады І.І. Юкща; старонка 308 (Петрыкаўскі раён): здымак злева зверху – гэта не камандаванне 125-й Капаткевіцкай брыгады, а камандаванне 150-й імя Языковіча і імя Сталіна партызанскіх брыгад Брэсцкага злучэння; здымак справа – гэта не група партызан-славакаў у 125-й Капаткевіцкай брыгадзе, а партызаны Славацкага атрада злучэння А.М. Сабурава. У другім радзе другі справа камандзір атрада Герой Савецкага Саюза Ян Налепка.



*Мемарыяльны знак у гонар 350-годдзя заснавання в. Шацілкі*

Прыведзеная карта-схема «Знішчэнне насельніцтва Беларусі нямецка-фашысцкімі акупантамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны», якая пераходзіць з кнігі ў кнігу, даўно патрабуе перагляду. Па-першае, там няма звестак па былым Жалудоцкім раёне, па-другое, па некаторых раёнах нават не да канца прыведзены звесткі раённых надзвычайных камісій па ўстанаўленні і расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх саўдзельнікаў на часова акупаванай тэрыторыі. Напрыклад, Парыцкі раён – знішчана 3 271 чалавек. На самой справе, гэта колькасць устаноўленых прозвішчаў загінулых, прычым без уліку аднаго сельсавета. Даманавіцкі раён (райцэнтр Азарычы) – знішчана 869 чалавек. Нават па звестках даманавіцкай раённай камісіі (без уліку загінулых у Азарыцкіх лагерах смерці) – расстраляна 869, спалена 119, загінула падчас бамбёжак 142, угнана ў Германію 717 жыхароў, знішчана 447 ваеннапалонных. У межах сучаснага Светлагорскага раёна рабочай групай па складанні кнігі гэты прабел ліквідаваны.

Здзівіў артыкул пра Светлагорскі раён, хаця выйшлі дзве кнігі «Памяць». 29.06.1941 г. 35-я стралковая дывізія неграміла на тэрыторыі сучанага Светлагорскага раёна матарызаваны атрад гітлераўцаў. 214-я паветрана-дэсантная брыгада ў канцы ліпеня не магла весці бой на паўночны захад ад пасёлка Парычы і на шашы Парычы–Бабруйск з двума палкамі ворага, бо яшчэ 19 ліпеня пры выхадзе з-пад Асіповічаў у Глускім раёне трапіла пад абстрэл і разгрупавалася для выхаду з акружэння. 25 ліпеня яна сабралася ў Калінкавічах. Затое ні слова не сказана пра 232-ю стралковую дывізію, якая вяла наступальныя і абарончыя баі на Светлагоршчыне. Дывізія пакінула Парычы на досвітку 21 ліпеня, Шацілкі (сучасны Светлагорск) – у ноч на 7 жніўня, а не 8-га. Вёска Шацілкі вызвалена 27 (а не 26) лістапада 1943 года. У выніку знішчэння карнікамі вёсак пасля вайны ў раёне не адрадзіліся дзве, а не адна вёска. Ёсць недакладнасць: не Баранавіцкі, а Баравікоўскі сельсавет. У жніўні 1942 года карныя аперацыі на тэрыторыі сучаснага Светлагорскага раёна не праводзіліся, бо тут партызанскія атрады ў той час не базіраваліся. Апошняя праводзілася ў Глускім і Акцябрскім раёнах.

Амаль ва ўсіх кнігах «Памяць» прыводзяцца звесткі аб партызанскіх фарміраваннях, узятыя з кнігі «Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны», выдадзенай у 1983 годзе. Гэты даведнік, створаны калектывам на чале з Аляксандрам Лявонавічам Манаенкавым, з'явіўся вялікай дапамогай пры вывучэнні гісторыі партызанскага руху. Але час не стаіць на месцы. У даведніку сустракаюцца недакладнасці, колькасны склад фарміраванняў пры злучэнні з Чырвонай Арміяй не заўсёды адпавядае рэчаіснасці. Не названы некалькі брыгад і шэраг атрадаў, у асноўным падначаленых ГРУ Генштаба РККА і НКГБ СССР і БССР. У некаторых кнігах прыводзяцца звесткі аб групах і атрадах НКГБ БССР з кнігі А.К. Салаўёва «Они действовали под разными псевдонимами» (Мн., 1994). Але спіс спецпадраздзяленняў і там няпоўны і ўтрымлівае шэраг недакладнасцей.

У апошні час працягвае выходзіць розная гістарычная даведачная літаратура. Неяк трапіўся даведнік «Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне», у якім у храналагічнай паслядоўнасці паказаны падзеі вайны. Нават пры хуткім праглядзе сустрэлася шмат памылак. Адзначаных недахопаў можна было б пазбегнуць, калі б не бяздумна перапісваць раней надрукаванае, а імкнуцца праверыць інфармацыю. Між тым, падобнай літаратурай карыстаюцца пошукавыя клубы і даследчыкі, у тым ліку школьнікі пры напісанні рэфератаў. Гістарычныя даведнікі павінны складаць людзі, якія маюць выдатныя веды па гісторыі і геаграфіі Беларусі і праводзяць сур'ёзныя даследаванні.

Выказваючы свае думкі, нікога не хачу пакрыўдзіць. Вядомыя гісторыкі ў асноўным займаюцца глабальнымі праблемамі, а краязнаўцы і пошукавыя групы займаюцца гісторыяй асобных раёнаў. Ёсць такая прымаўка – «на месцы відней». А калі сабраць увесь матэрыял, то ўзнікае поўная карціна гераічнай барацьбы беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Галоўнае, каб пасля выхаду кніг серыі «Памяць» не заціхла распачатая праца. Гісторыкам і краязнаўцам яшчэ трэба шмат працаваць.

*Уладзімір БУРАЧОНАК,*
*г. Светлагорск*

**Ад рэдактара.** *Добры дзень! Даруйце, што не магу звярнуцца да Вас з большаю павагаю, бо не ведаю Ваша імя па бацьку!*

*Аднак гэта не замінае мне падзякаваць Вам за грунтоўны матэрыял, які Вы даслалі нам у «Краязнаўчую газету», прысвечаны выхаду з друку шматтомнай кнігі «Памяць». Я, як і Вы, пільна сачыў за яе стварэннем, як і Вы, перажываў за тыя дробныя і вялікія недахопы, якія, на жаль, сустракаюцца ў гэтай, так неабходнай нам, асабліва нашчадкам, серыі. І яшчэ таму, што з маім удзелам ужо ў далёкіх 1970-х гадах распрацоўвалася сама ідэя стварэння «Памяці» і напісання «Летапісу народнай славы Шумілінскага раёна». Гэта было ажно 30 гадоў таму! Вялікі дзякуй людзям, якія давялі гэтую ідэю да ўвасаблення ў жыццё.*

*Але апошняе не азначае, што мы не павінны крытычна адносіцца да створанага, асабліва, калі ведаем, што ў кнігу трапілі памылкі з-за несумленнасці альбо спешнасці аўтараў, ці з-за недагляду рэдактараў-выдаўцоў. Тым самым мы робім ахвярамі зману шырокае кола чытачоў, тыражыруем папярэднія памылкі, фальсіфіцыруем гісторыю – усё гэта недаравальна.*

*Таму Ваш ліст вельмі зацікавіў мяне – сённяшняга рэдактара «Краязнаўчай газеты», і мы яго апублікуем у бліжэйшым нумары. Таксама маем намер гэты нумар «КГ» даслаць на рэагаванне ў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і рэдакцыю па стварэнні гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць». Рэдакцыя «Памяці», на маю думку, не павінна знікнуць у сувязі з выхадам апошняга тома. Зараз неабходна ўжо на новым даследчыцкім узроўні вярнуцца да гэтага выдання: скіраваць краязнаўчы рух на вывучэнне невядомых ці малавядомых старонак гісторыі краіны, адкрыццё новых славутых імёнаў Бацькаўшчыны ўсіх гістарычных перыядаў, ушанаванне і мемарыялізацыю не толькі месцаў жорсткіх баёў, але і памяці аб зніклых вёсках і прозвішчах тых, хто быў іх насельнікамі.*

*Апошняе вельмі важна для захавання ў памяці нашчадкаў спаконвечных этнонімаў нашага краю.*

*Усё гэта можа быць дапаўненнямі да кнігі «Памяць» кожнага раёна ў выглядзе асобнага тома (з выпраўленнем папярэдніх памылак і недакладнасцей).*

*З павагаю, галоўны рэдактар*
*Уладзімір ГІЛЕП*

# Прыгажуня з рода Талейранаў і Радзівілаў

***Сярод славутых імёнаў жанчын з роду Радзівілаў ганаровае месца займае асветніца, мецэнатка і мемуарыстка Марыя Дарота (дэ Кастэлян). З ёй звязаны лепшыя старонкі эканамічнага і культурнага жыцця Нясвіжа і Радзівіламонтаў (Клецкі раён) у канцы XIX – пачатку XX стст. Парыжанка, дачка маркіза Анры дэ Кастэляна і Паліны дэ Талейран. Яе дзед па бацькоўскай лініі быў маршалам Францыі. Але галоўны ўплыў на яе аказвала бабуля па маці, род якой паходзіў ад вялікага дыпламата, міністра замежных спраў урада Напалеона I дэ Талейрана.***

Марыя Дарота ў дзіцячым узросце шмат вандравала разам з бабуляй, пабывала ў Швейцарыі, Італіі, на Корсіцы. У 1854 годзе была прадстаўлена папе рымскаму Пію IX. Вучылася ў школе ордэна Сакрэ-Кур (сакраментак). У канцы 1855 года вярнулася ў Францыю, дзе грамадскасцю была прызнана найпрыгажэйшай жанчынай краіны і Еўропы. Княгіня Дзіно дэ Талейран сама знайшла жаніха для ўнучкі. Ім стаў Антоній Радзівіл. Аднак Марыя Дарота яшчэ вучылася, брала ўрокі ў вядомага парыжскага піяніста Ф. Плантэ. Таму замуж выйшла толькі праз год, 3 кастрычніка 1857 года. Пасля вяселля пераехала жыць у палац Радзівілаў у Берліне. У жніўні 1858 года пабывала ў Англіі і была прадстаўлена каралеве Вікторыі і будучай каралеве Аўгусце.

У маі 1865 года Марыя Дарота ўпершыню наведала Вільню, Нясвіж і Мір. Паколькі нясвіжскі палац быў яшчэ ў занядбанні, пасялілася ў дзядзькі мужа, Леона Радзівіла, у Радзівіламонтах пад Клецкам. Са згоды апошняга занялася перапланіроўкай маёнтка. Стары парк быў ператвораны з барочнага ў рамантычны. Адкрыла школу для дзетак, якія вывучалі сярод іншых прадметаў і французскую мову. Дарэчы, лічыла нашу беларускую духоўнасць «вышэйшай за прускую і блізкай да французскай» (І. Масляніцына, М. Багадзяж // Беларускі гістарычны часопіс. 2005. № 8). Свой абавязак бачыла ў аднаўленні былой магутнасці роду Радзівілаў.

У 1875 годзе пераехала ў нясвіжскі палац. Тут няўрымслівая фундатарка і мецэнатка працягвала справу князя Мікалая Радзівіла Сіроткі. Арганізавала рэстаўрацыю залаў і пакояў, а таксама карціннай га-



лерэі і архіва. З маёнтка графа Л. Вітгенштэйна ў Верках пад Вільняй прывезла рэшткі зброі і рыцарскіх даспехаў, аднавіла капліцу. Марыя і Антоній набылі бібліятэку нясвіжскіх бернардзінцаў, кнігазборы Ганны Сангушкі ў Белай, Якуба Генрыха Флемінга і ордэна езуітаў у Нясвіжы.

Былі вернуты рарытэтныя кнігі з Кракаўскага Ягелонскага універсітэта, здабытыя некалі Багуславам Радзівілам. Акрамя таго, іх асабістая бібліятэка складала 15 тысяч кніг, выдадзеных у Парыжы, Берліне, Празе, Варшаве, Вільні. Княгіня Марыя Дарота і ў Нясвіжы адкрыла прыватную школу з музычным ухілам. Ужо праз некалькі гадоў пасля іх прыезду ў Нясвіж, палац можна было паставіць у адзін шэраг з лепшымі рэзідэнцыямі Еўропы.

Па ініцыятыве Марыі Дароты ў горадзе аднавіліся «паляўнічыя сезоны», якія збіралі ў маёнтку вядомых палітыкаў, дыпламатаў, славутых дзеячаў мастацтва. Тады ж аднавіў сваю дзейнасць першы на Беларусі аматарскі тэатр, які стварыла знакамітая Уршуля Радзівіл. У гэты час у Нясвіжы пабываў нават германскі імператар Вільгельм II.

З імем Марыі Дароты звязваецца заснаванне паркавага ансамбля, размешчанага каля палаца. Сведчаннем таму – закладны камень з надпісам: «Алеі парка пасаджаны Марыяй дэ Кастэлян, княгіняй Радзівіл, саджанцамі, вырашчанымі з насення, што прывезена з гадавальніка Берлінскага палаца Радзівілаў». У яе гонар парк назвалі Марысіным. У ім зараз размешчана галерэя бюстаў славутых людзей горада. Амаль разам з нясвіжскім княгіня разбіла парк у маёнтку Манькавічы (Столінскі раён), які належаў сыну Станіславу.



*Ежы Радзівіл, сын Марыі Дароты*

У 1906 годзе прадстаўніца знакамітага роду дабілася вяртання часткі радзівілаўскіх каштоўнасцей, якія трапілі ў Эрмітаж пасля разрабавання ў 1812 годзе. Аднавіла дзейнасць прадпрыемстваў Радзівілаў у Белай, Карэлічах і Урэччы. Пры ёй пачала вырабляцца модная мэбля па французскіх узорах.

Жанчына жыла не толькі ў Нясвіжы, але ў Берліне і ў Парыжы, прымала каранаваных асоб, падтрымлівала цесныя сувязі з Ватыканам, радавітымі сямействамі Пецярбурга, якіх не раз наведвала. Яна марыла аб наданні другога жыцця Мірскаму замку і мястэчку.

У канцы жыцця пісала мемуары, якія маюць цікавыя звесткі пра Радзівіламонты, Нясвіж, Мір, Вільню і беларускі край. Памерла ў 1915 годзе ў Сілезіі.

***М. СЯЛЕЦКІ,***
*гісторык, г. Нясвіж*

**P. S.** ***М. Сялецкі просіць прабачэння ў чытачоў за тое, што ў папярэднім нумары «КГ», у артыкуле «Руплівіца з роду Радзівілаў» ён дапусціў памылку: слуцкія паясы ў названыя аўтарам краіны не прадаваліся.***

*У працяг размовы пра пытанні летапіснай Нямігі*

# Па шляху паміж Свіслаччу і Менкай

***Падзеі знакамітай бітвы 1067 г. на рэчцы Няміга адбыліся, згодна з летапісам, напрыканцы зімы – 3 сакавіка. Гэтая пара году мела характэрную рысу – павелічэнне колькасці ападкаў.[1] Жорсткая сеча суправаджалася снежнымі віхурамі, што таксама адзначана летапісам. Паход войска Яраславічаў да Нямігі адбываўся ў непагадзь. Снегавое покрыва магло дасягаць найбольшай велічыні. На шляху да Нямігі не было больш-менш значнай рэчкі, замерзлая паверхня якой спрыяла б пераходу. Глыбокія і вузкія лагчыны Мінскага ўзвышша, па якіх цяклі невялікія рачулкі, былі занесены снегам. Яраславічы, сідавочна, выбіралі самы лёгкі шлях.***

***Мы прапануем свой варыянт маршруту, якім войска магло накіроўвацца ад разбуранага Менска на рэчцы Менка, але спачатку ўдакладнім геаграфічныя адметнасці мясцовасці з дапамогаю планаў і гістарычных дакументаў.***

Даследчыкам нашай мінуўшчыны І. Сербавым у 1925 г. быў складзены план наваколля паўднёва-заходняга сектара Мінска[2], размешчанага якраз на шляху паміж Менкай і Свіслаччу. З архіўных матэрыялаў мы выкарысталі карты, складзеныя ў 1930–1940-я гады, з якіх зрабілі выкапіроўку. Захаваўся цікавы дакумент, складзены ў 1557 г., у якім указваюцца межы «грунтоў», што належалі мяшчанам Мінска. У дакуменце апісваецца і паўднёва-заходні сектар.[3] Абапіраючыся на план І. Сербава, карты і сярэднявечны дакумент, зробім параўнальны аналіз матэрыялаў.

Пачнём разгляд сярэднявечнага дакумента з тых радкоў, дзе ўказваецца месца перасячэння рэчкай Лошыцай, якая з'яўлялася мяжой «грунтоў» менскіх, Койданаўскай дарогі. Апошняя адзначана і на плане І. Сербава. Ад гэтага перасячэння мяжа, згодна з тэкстам, доўжылася паўз рэчку да «прудца петровского, где и двор за речкою». Тут не ўказваецца назва двара, але, несумненна, што назва «прудца» паходзіць ад назвы двара. У адной з пісьмовых крыніц таго ж стагоддзя апісваецца, як у красавіку 1582 г. менскаму мешчаніну Андрэю Станкевічу быў выдадзены дакумент на валоданне маёнткам Пятроўскім у Менскім павеце.[4] Прыведзеныя ўрыўкі сярэднявечных запісаў паказваюць на адно і тое ж месца. На карце І. Сербава на левым беразе рэчкі Лошыцы зафіксавана вёска Пятроўшчына. Відавочная блізкасць форм сярэднявечных тапоніма і гідроніма і сучаснага тапоніма сведчыць аб пераемнасці гэтых назваў. Размяшчэнне сучаснай вёскі Пятроўшчына на месцы сярэднявечнага двара Пятроўскага ўдакладняецца параўнаннем пісьмовай крыніцы з планам мясцовасці, складзеным І. Сербавым праз 343 гады.

Месцазнаходжанне сучаснай вёскі Пятроўшчына дакладна адпавядае арыенціроўцы двара Пятроўскага адносна менскіх «грунтоў»: «двор за речкою». Ад «прудца» Пятроўскага мяжа ішла па рэчцы праз дарогу, што «идёт з Менска до Вовчъкович». Дарога да «Вовчъкович», верагодна, ідэнтычная дарозе на Воўчкавічы, што пазначана на картах 1930–1940-х гадоў. Пасля перасячэння «Вовчъковичской» дарогі ўказваецца двор Сухараўскі пана Карэвіча, за якім «узнікля» (выток рэчкі Лошыцы). Згодна з картамі, уверх па рэчцы Лошыцы ад вёскі Пятроўшчына спачатку зафіксавана дарога на Воўчкавічы і далей праз 300 м дарога на Гарадзішча, а яшчэ далей, бліжэй да вытоку, вёска Сухарава. Такім чынам, дарога да «Вовчъкович», названая ў сярэднявечным тэксце, тая ж самая, што і дарога да вёскі Воўчкавічы на картах 1930–1940-х гадоў. А на поўнач ад яе – дарога да сяла Гарадзішча.

Цікава, што дзве дарогі на картах 1930–1940-х гадоў ідуць ад Менска да вёскі Пятроўшчына побач. Сыходзяцца каля рэчкі і толькі за Лошыцай разыходзяцца. Несумненна, што сваім існаваннем познасярэднявечны населены пункт Пятроўскі, які знаходзіўся на правым беразе Лошыцы, «абавязаны» нейкай пераправе праз рэчку, куды падыходзілі дзве дарогі ад горада. Магчыма, што ў больш ранні час пасяленне на гэтым месцы магло выконваць альбо кантрольную функцыю на дарозе, альбо яго насельнікі абслугоўвалі тых, хто перапраўляўся цераз рэчку.




На сучасных планах Мінска існуе памылка ў абазначэнні рэчышча Лошыцы, якое пачынаецца ад вёскі Дворыцкая Слабада (побач з мікрараёнам Малінаўка-6). На гэтых планах (паміж 5-м і 3-м завулкамі Міхалёва) зафіксавана рэчышча Мышы, сутока якой з Лошыцай месціцца ніжэй вёскі Пятроўшчына. На плане І. Сербава выток рэчкі Лошыцы пачынаецца ад вёскі Сухарава. Далей Лошыца цячэ злева ад фальварка Міхалёва, і за вёскай Пятроўшчынай у Лошыцу ўпадае ручай, што выцякае ад вёскі Слабада (сучасная Дворыцкая Слабада). Рэчышча Лошыцы на плане І. Сербава дакладна адпавядае апісанню старажытнага дакумента. Такім чынам, рэчышчам Лошыцы павінна лічыцца тое, што адпавядала сярэднявечнаму дакументу і плану наваколля Менска, складзенаму І. Сербавым.

Удакладненне рэчышчаў абалоны Лошыцы ў паўднёва-заходнім сектары Менска дазваляе перайсці да разгляду сухапутнага шляху ад Менкі да Свіслачы, па якім магло рухацца зімой войска Яраславічаў (пісьмовыя крыніцы засведчылі толькі кароценькі адрэзак паходу – рэчку Нямігу). У. Жучкевічам адзначана, што Няміга да сярэдзіны XIX ст. мела наступнае рэчышча. Пачыналася яна ў невялікай лагчыне на ўсходзе ад вёскі Сухарава, далей цякла паўз сяло Пятроўшчына (у раёне сучасных вуліц Чыгуначнай, Прылуцкай, Суражскай, Разінскай, Грушаўскай, Ізвознай, Нагіна, Мяснікова) і накіроўвалася да вуліцы Нямігі.[5] Візуальнае даследаванне, праведзенае навукоўцамі НАН Беларусі ў 1985 г., дазволіла выявіць і канстатаваць наяўнасць у мінулым іншага рэчышча: ад упадзення ў Свіслач і да аўтастанцыі Таварная і Калектарнага завулка, дзе раней было балота, з якога і пачыналася Няміга.[6]

*(Заканчэнне на стар. 7)*





ЗАЦВЯРДЖАЮ
Намеснік Міністра адукацыі
Рэспублікі Беларусь
Т.М. Кавалёва
12.12.2005 г.

## УМОВЫ правядзення рэспубліканскага конкурсу на лепшы праект краязнаўчага маршруту

# «Мой край»

**1.** Рэспубліканскі конкурс на лепшы праект краязнаўчага маршруту «Мой край» (далей – конкурс) праводзіцца у рамках IV этапа Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край».

**2.** У конкурсе прымаюць удзел краязнаўчыя гурткі і клубы, калектывы ўстаноў адукацыі ўсіх тыпаў, навучэнцы і педагогі – асобныя аматары краязнаўства.

**3.** Асноўныя мэты і задачы конкурсу:

– развіццё краязнаўчага руху ў сістэме адукацыі, стымуляванне пошукавай краязнаўчай дзейнасці навучэнцаў, падтрымка творчых і даследчых ініцыятыў педагогаў;

– папулярызацыя рэгіянальных помнікаў гісторыі, культуры і прыроды, іншых краязнаўчых аб'ектаў, якія маюць культурна-гістарычныя вартасці, сістэмнае іх даследаванне і ўключэнне ў тэматычныя і комплексныя турысцка-краязнаўчыя маршруты па родным краі;

– вызначэнне лепшых творчых праектаў юных краязнаўцаў і іх заахвочванне.

**4.** Конкурс праводзіцца з 15 снежня 2005 года па 1 снежня 2006 года ў два этапы.

Першы этап арганізуецца і праводзіцца з 15 снежня 2005 года па 1 лістапада 2006 года абласнымі і Мінскім гарадскім арганізацыйнымі камітэтамі (далей – аргкамітэты), створанымі ўпраўленнямі адукацыі аблвыканкамаў і камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама.

Аргкамітэты да 15 лістапада 2006 года накіроўваюць на разгляд рэспубліканскага аргкамітэту пратаколы правядзення конкурсу, спісы пераможцаў і 10 лепшых праектаў.

Другі этап – з 15 лістапада па 1 снежня 2006 года – рэспубліканскі. Праводзіцца рэспубліканскім аргкамітэтам.

**5.** На разгляд рэспубліканскага аргкамітэта прадстаўляецца пісьмовая альбо электронная форма справаздачы ў наступнай агульнай структуры:

**5.1.** Тытульны ліст:

– назва ўстановы, пры якой працуе аўтар ці калектыў аўтараў праекта;

– назва праекта;

– назва калектыва аўтараў праекта, прозвішчы, імёны і ўзрост аўтараў;

– прозвішча, імя, імя па бацьку кіраўніка ці кіраўнікоў праекта;

– паштовы адрас (цалкам) кіраўніка праекта ці калектыва, кантактныя тэлефоны.

**5.2.** Конкурсны праект складаецца з апісальнай і картаграфічнай частак, якія выконваюцца з выкарыстаннем дапаможнага нагляднага матэрыялу – фатаграфій, малюнкаў, планаў мясцовасці і інш. Складзены маршрут уключае ў сябе не больш за 10 найбольш значных краязнаўчых аб'ектаў, якія рознабакова адлюстроўваюць гісторыка-культурныя і прыродныя асаблівасці рэгіёну. Да праекта прыкладаецца намаляваная карта, план ці карта-схема маршруту з мастацкім пазначэннем краязнаўчых аб'ектаў. Выбар лакалізацыі мясцовасці даследавання залежыць ад пастаўленых задач:

– даследуецца малая Бацькаўшчына – месца нараджэння, альбо пражывання аўтара праекта;

– даследуецца рэгіён і складаецца схема маршруту (маршрут можа выходзіць за межы мясцовасці пражывання аўтараў праекта);

– маршрут з аб'ектамі страчанай спадчыны набывае характар уяўнасці і рэканструкцыі;

– маршрут з аб'ектамі культурнай нематэрыяльнай спадчыны мае прывязку да носьбітаў традыцыі, да часу і месца правядзення абраду, альбо іншага помніка.

**5.3.** Кароткая анатацыя зместу (пажадана ў электронным варыянце) з кароткім апісаннем складзенага маршруту, пералікам праведзеных даследаванняў і спісам выкарыстанай літаратуры. Указваюцца мерапрыемствы па папулярызацыі маршруту і яго асобных аб'ектаў у рамках установы адукацыі, рэгёну:

– пералік праведзеных культурна-масавых мерапрыемстваў з выкарыстаннем складзенага маршруту;

– ацэнка сучаснага стану, прапановы па ахове ці фіксацыі краязнаўчых аб'ектаў.

**6.** Рэспубліканскім аргкамітэтам конкурсу ацэньваецца:

– тэкставае і вобразна-мастацкае прадстаўленне краязнаўчых аб'ектаў і схема маршруту;

– узровень інфармаванасці аб сучасным стане краязнаўчых аб'ектаў на маршруце;

– уключэнне ў маршрут аб'ектаў страчанай спадчыны (помнікі архітэктуры, сядзібнапаркавага мастацтва, горадабудаўніцтва і інш., якія сёння ўжо не існуюць, але захаваліся іх планы, рэпрадукцыі відаў, тэкставыя апісанні) і культурнай нематэрыяльнай спадчыны (аб'екты вусна-паэтычнай, музычна-танцавальнай і выканальніцкай культуры, абрадавыя комплексы каляндарнага і сямейнага цыклаў, традыцыі шанавання прыроды і яе рацыянальнага выкарыстання), якія істотна дапаўняюць і аднаўляюць культурна-гістарычны і прыродны краявід рэгіёну;

– асабістае стаўленне да праблем захавання і папулярызацыі гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны;

– бачанне перспектыў існавання складзенага маршруту, яго значэння ў грамадска-культурным жыцці ўстановы адукацыі, рэгіёну.

**7.** Падвядзенне вынікаў.

Матэрыялы падаюцца на разгляд рэспубліканскага аргкамітэта да 15 лістапада 2006 года па адрасе: 220131, г. Мінск, вул. Лук'яновіча, 18, Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі.

Пераможцы конкурсу заахвочваюцца арганізатарамі.

---

***(Заканчэнне. Пачатак на стар. 6)***

Візуальнае даследаванне, праведзенае навукоўцамі АН Беларусі ў 1985 г., дазволіла выявіць і канстатаваць наяўнасць у мінулым іншага рэчышча: ад упадзення ў Свіслач і да аўтастанцыі таварная і Калектарнага завулка, дзе раней было балота, з якога і пачыналася Няміга.[6] Адпаведна гэтаму плану, рэчка Няміга паварочвала да аўтастанцыі Таварная ў тым месцы, дзе пракладзена вуліца Грушаўская. Менавіта на павароце Нямігі і пачынаўся пераход ад яе рэчышча да рэчышча Лошыцы.

На плане губернскага горада Мінска, складзенага ў 1911 г., дарога, што ідзе да вёскі Гарадзішча, з'яўляецца як бы працягам вуліцы Грушаўскай. На плане І. Сербава паблізу гэтага месца зафіксаваны гідронім «Чыстая лужа». Ён месціцца ў пачатку лагчыны, што адыходзіла ў накірунку да рэчышча Лошыцы. Магчыма, што назва «Чыстая лужа» паказвае на існаванне невялікага воднага аб'екта прыроднага характару: балотца альбо крыніцы, якая сілкавала невялікае верхавое балота. Яно магло быць вытокам ручая ці невялікай рачулкі, што цякла лагчынаю. На сучасных планах Мінска ў гэтым месцы зафіксаваны ручай, які перасякаецца вуліцай Чыгуначнай. Ён падыходзіць да рэчкі Лошыцы якраз там, дзе на плане І. Сербава лагчына ад «Чыстай лужы» зліваецца з рэчкай насупраць вёскі Пятроўшчына. Верагодна, У. Жучкевіч і лічыў рэчышчам Нямігі заўважаныя ім лагчыны, па якіх цяклі Лошыца, што пачыналася ад вёскі Сухарава, і ручай, які браў пачатак ад «Чыстай лужы», побач з рэчышчам Нямігі на вуліцы Грушаўскай. Удакладненне памылкі У. Жучкевіча дае магчымасць вызначыць, што рэльеф мясцовасці, пачынаючы ад рэчышча Лошыцы каля вёскі Пятроўшчына і да вусця Нямігі, уяўляў яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. лагчыну. Уздоўж яе і пралягала дарога да сяла Гарадзішча, адзначаная на плане І. Сербава. Паралельна і побач з Гарадзішчанскай дарогай працякае ў лагчыне і ручай, які на плане І. Сербава бярэ пачатак каля вёскі Слабада і ўпадае ў Лошыцу побач з вёскай Пятроўшчына, ніжэй па цячэнні. Мы ўжо адзначалі, што на сучасных планах ён памылкова пазначаны як рэчка Лошыца.

Такім чынам, ручай, што пачынаецца ад вёскі Слабада, і лагчына, якая адыходзіць ад «Чыстай лужы», накіраваны амаль што паралельна Гарадзішчанскай дарозе і знаходзяцца на поўдзень ад яе. Несумненна, што зімой, калі снег засыпаў лагчыны, па якіх цяклі невялікія рачулкі і ручаі, вандроўнікам трэба было кіравацца ўздоўж іх. Яны маглі рухацца ўзгоркамі на поўнач ад лагчыны – па наезджанай дарозе, якая ў пачатку XX ст. зафіксавана як дарога на Гарадзішча і якая пралегла на поўнач ад другой дарогі, што атрымала ў позняе сярэднявечча назву «дарога з Вовъчкович». Гэтыя мясціны былі здаўна асвоены і тут усталяваўся старажытны шлях. Сведчаннем заселенасці з'яўляюцца выяўленыя археалагічныя помнікі.[7]

Шэраг кургановых груп зафіксаваны на плане І. Сербава ўздоўж дарогі на Гарадзішча і па рэчышчах абалоны Лошыцы. У апошнія гады ў паўднёва-заходнім сектары сучаснага Мінска (у басейне рэчкі Лошыцы) былі праведзены археалагічныя раскопкі. На заходняй ускраіне вёскі Дворыцкая Слабада (Шчомысліцкі сельсавет Мінскага раёна) даследавана селішча, якое датуецца XI–XII стст.).[8] На плане І. Сербава каля вытоку ручая побач з вёскай Слабада (сучасная Дворыцкая Слабада), ніжэй па яго цячэнні, зафіксаваны фальварак Дворышча (да нядаўняга часу вёска Дворышча). На поўнач ад гэтай вёскі, у раёне праспекта Любімава, выяўлена селішча, датаванае канцом X–XII стст.[9] У раёне Малінаўкі раскопвалася вялікае паселішча плошчай да 8,5 гектара. Вынікі работ пацвердзілі яго значнасць як звяна ў ланцужку старажытнага сухапутнага шляху паміж Лошыцай і гарадзішчам на рэчцы Менцы.[10] Вялікае па плошчы паселішча і значная колькасць курганоў уздоўж дарогі на вёску Гарадзішча і ў абалоне Лошыцы, сведчаць аб тым, што тэрыторыя ўздоўж пазначанага сухапутнага шляху была ў пачатку другога тысячагоддзя даволі шчыльна заселена. Менавіта таму тут і пралёг сухапутны шлях, які праходзіў сярод паселішчаў.

Дакладную арыенціроўку заходняй часткі сухапутнай дарогі ад Менкі да Свіслачы ў сярэднявеччы, па-за межамі сучаснага Мінска, дае шэраг сярэдневяковых дакументаў. Першы з іх – уступны запіс 1582 г., у якім стараста Крычаўскі Фёдар Андрэевіч Шолуха частку сваёй зямлі запісаў на імя нявесткі Раіны Мялешкаўны, жонкі Канстанціна Шолухі.[11] Для абазначэння межаў зямлі ён абапіраўся на адметнасці мясцовасці: рэчка Менка супраць «рогу Кургана вялікага», маёнтак «Строчычы», поле і двор «Городішчанскі», дарога на Слуцк. «Рогам Кургана вялікага» каля рэчкі Менкі з'яўляецца малое гарадзішча сярэднявечнага Менска. Маёнтак Строкчычы адпавядае сучаснай вёсцы Строчыца, а двор «Городішчанскі» – вёсцы Гарадзішча. Усе гэтыя населеныя пункты і гарадзішча знаходзяцца ў сучасных межах Шчомысліцкага сельсавета. У запісу ад 26 верасня 1582 г. гаворыцца пра торг у Гарадзішчы, які знаходзіўся каля Новага Двара.[12] Асобы, якія ўпаміналіся ў дакуменце, дапамаглі акрэсліць менавіта гэты рэгіён. Да торгу ў Гарадзішчы з Менска павінна была быць дарога і, несумненна, яна існавала ў той час, нягледзячы на тое, што ў дакументах не засведчана. Нездарма на плане І. Сербава дарога абазначана як Гарадзішчанская і накіравана праз землі на поўначы вёсак Слабада (сучасная Дворыцкая Слабада) і Азярцо. Неабходна заўважыць яшчэ адну асаблівасць. На сучасных картах і картах 1930–1940-х гадоў ад вёскі Дворыцкая Слабада ў заходнім накірунку адыходзіць балоцістая лагчына да вёскі Азярцо. Назва вёскі гаворыць пра існаванне ў гэтым месцы раней невялікага вадаёма. Ад вёскі Азярцо недалёка і сутокі рэчак Пціч і Менка. На поўнач ад лагчыны і па сённяшні дзень існуе грунтовая дарога, якая ідзе ад вёскі Азярцо да вёскі Дворыцкая Слабада, верагодна, рэшткі старажытнай.

Такім чынам, паміж гарадзішчам на рэчцы Менка і рэчышчам Свіслачы існаваў старажытны шлях, частка якога была зафіксавана на плане І. Сербава, на картах 1930–1940-х гадоў і ў тэксце сярэднявечнага дакумента. Шлях (гл. малюнак) ляжаў на поўнач ад рэчышчаў невялікіх рачулак і лагчын па наступных мясцінах: ад гарадзішча, уздоўж рэчкі Менкі на ўсход да рэчкі Пціч, далей праз тое месца, дзе знаходзіцца сучасная вёска Азярцо, яшчэ далей да правага прытоку рэчкі Лошыцы, што пачынаўся каля вёскі Дворыцкая Слабада (вёскі Слабада на плане І. Сербава), потым па ўзгорках уздоўж гэтае лагчыны на поўнач ад вёскі Пятроўшчына (сярэднявечная вёска Пятроўскае), праз Лошыцу на левы бераг і, нарэшце, уздоўж ручая, які пачынаўся ад верхавога балотца ці крыніцы на мясціне пад назвай «Чыстая лужа», дзе непадалёк быў вытак Нямігі.

Відавочна, што гэты шлях мог існаваць з тых часоў, калі на ўзвышшы побач з рэчкаю Менкай сяліліся людзі і дзе ў апошнія дзесяцігоддзі даследчыкамі выяўлены шэраг археалагічных культур.[13] Безумоўна, шляхам карысталася і насельніцтва Менскага гарадзішча, і вялікага паселішча. У познім сярэднявеччы шэраг вуліц і трактаў, якія пачыналіся ад сцен Менска на Свіслачы, называўся адпаведна гарадам, да якіх вуліцы былі накіраваны: Ракаўская, Заслаўская, Койданаўская, Барысаўская і шэраг іншых.[14] На плане У. Жучкевіча, надрукаваным у яго кнізе «Дороги и водные пути Белоруссии», дарога, якая адыходзіла ад сярэднявечнага Менска на поўнач ад Койданаўскай, пазначана як Стара-Менская. Яна мела заходні напрамак, да «старога Менска», месца, дзе знаходзілася Строчыцкае гарадзішча. Стара-Менская дарога, адзначаная У. Жучкевічам, і дарога на вёску Гарадзішча, зафіксаваная І. Сербавым і картамі 1930–1940-х гадоў, адна і тая ж, якой карысталіся на працягу многіх стагоддзяў. Яна звязвала Менск на Свіслачы са старажытным гарадзішчам на рэчцы Менка. Гэтым шляхам і магло ісці войска Яраславічаў.

***Зыходзячы з вялікай значнасці падзей 1067 г. у гісторыі Беларусі, было б мэтазгодна шлях ад Строчыцкага гарадзішча на рэчцы Менка і да Нямігі, якім рушыла войска Яраславічаў, адзначыць на планах турыстычных маршрутаў, а таксама і на шыльдах у горадзе і за яго межамі.***

***Пятро РУСАЎ***

[1] Гольберг М. Климат Минска. Мн., 1976. С. 107, 114.
[2] Рынейскі А. Археолёгічныя разьведкі на р. Пцічы. У кн.: Працы археолёгічнай камісіі. Т. 3. Менск, 1932. С. 205–206.
[3] БА. Т. 3. С. 21–22.
[4] АВАК. Т. 36. Акты Менского городского суда. 1582–1590. Вільня, 1912. С. 11.
[5] Жучкевич А.А. Улицы помнят. Мн., 1979. С. 151.
[6] Клок Л., Пазняк З., Штыхаў Г. Няміга // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1986. № 2. С. 13–15.
[7] Каваленя А. Зм. Ареолёгічныя разьведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Менскай акругах. У кн.: Працы археолёгічнай камісіі. Т. 2. Менск, 1930. С. 153.
[8] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Кніга 2. Мн., 1987. С. 46, арт. 1825.
[9] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінск. Мн., 1988. С. 148, арт. 202в.
[10] Расолька С. Археолагі не выключаюць, што, магчыма, ужо ў 2000 г. Мінск адсвяткуе свой тысячагадовы юбілей // Звязда. 1997, 5 ліпеня.
[11] АВАК. Т. 36. С. 160–161.
12 АВАК. Т. 36. С. 309–312.
13 Рынейскі А. Археолёгічныя разьведкі на р. Пцічы. С. 205–206. Мал. 5; Загорульский Э.М. Возникновение Минска. Мн., 1982. С. 49, 50; Алексеев Л.В. Полоцкая земля. М., 1966. С. 147–148; История Минска. Мн., 1957. С. 10; Ткачёв М.А. Прорезка вала городища на р. Менке. В кн.: ТДКАБ. Мн., 1969. С. 193–198; Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли. Мн., 1978. С. 71–72.
14 Жучкевич В.А. Дороги и водные пути Белоруссии. Мн., 1977. С. 13–14. Мал. 3.

**Ад рэдакцыі.** ***Матэрыял П. Русава друкуецца для тых экскурсаводаў, хто асмеліцца распрацаваць пешаходны экскурсійны маршрут «Ад Менска да Мінска».***





## Сакавік

**1 – Лідзія Савік (1936)**, крытык і літаратуразнаўца – 70 гадоў з дня нараджэння.

**8 – Сямён Падокшын (1931–2004)**, вучоны-філосаф і гісторык – 75 гадоў з дня нараджэння.

**10 – Васіль Супрун (1926)**, краязнавец, археолаг, гісторык, паэт – 80 гадоў з дня нараджэння.

**14 – Павел Дубашынскі (1931–2000)**, акцёр – 75 гадоў з дня нараджэння.

**22 – Іахім Лялевель (1786–1861)**, польскі вучоны-гісторык, даследчык гісторыі ВКЛ – 220 гадоў з дня нараджэння.

**23 – Ісак Любан (1906–1975)**, кампазітар – 100 гадоў з дня нараджэння.

**30 – Хрысціна Лялько (1956)**, празаік, галоўны рэдактар каталіцкіх рэлігійных часопісаў «Наша вера» і «Ave Maria» – 50 гадоў з дня нараджэння.



*Відэакамера на мясцовых энерганосбітах*

*Фотажарт Міколы КОТАВА*

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 7

**Уздоўж**

9. Чарапаха. 10. Астрагал. 11. Люлька. 12. Мыш. 13. Луннік. 14. Чына. 15. Шулячок. 17. Кума. 18. Сабачаня. 20. Караліна. 22. Дзербнік. 25. Каляндра. 27. Сказ. 29. Каласок. 30. Рогі. 31. Азалія. 33. Сон. 34. Зязюля. 35. Вікторыя. 36. Рыбчанка.

**Упоперак**

1. Канюшына. 2. Мальва. 3. Хара. 4. Пармелія. 5. Каршачок. 6. Стол. 7. Тайнік. 8. Талісман. 15. Шпажнік. 16. Каралёк. 19. Аер. 21. Лён. 23. Заказнік. 24. Каласняк. 25. Касандра. 26. Рагулькі. 28. Золата. 30. «Разлад». 32. Ядро. 34. Зубр.

## У тэатры «Зьніч»

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч» **2 сакавіка** запрашае на спектакль **«Мой Маленькі прынц»** паводле казкі А. Сэнт-Экзюперы ў перакладзе Н. Мацяш. Артыстка Алена Шапко з дапамогаю музыкі Яўгена і Радзівона Глебавых дапаможа зазірнуць у патаемныя глыбіні сваёй душы.

**6 сакавіка** заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Ларыса Горцава запросіць на паэтычны монаспектакль **«Прыпадаю да нябёс...»** паводле творчасці Я. Янішчыц. Яе вершы не адпускаюць чалавека, апякаюць сваім святлом – гэтак ахарактарызавалі стваральнікі пастаноўку.

**13 сакавіка** заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў прапануе сваё прачытанне аповесці Ф. Дастаеўскага **«Кроткая»**. Аповесці, дзе герой і апраўдвае, і абвінавачвае сябе і яе...

**16 сакавіка** тэатр запрашае на чарговую прэм'еру. Паэтычны монаспектакль **«Пацеркі»** заснаваны на вершах В. Седаковай (пераклад Н. Загорскай). Ён закранае глыбінныя праблемы чалавечага жыцця – найперш духоўнасць, тонкія нюансы ўзаемаадносінаў між людзьмі, паразуменне з самім сабою. І ўсё залежыць ад таго, наколькі верыць у Бога. Як пацерка за пацеркай, гераіня актрысы Марыны Паповай перабірае ў памяці розныя моманты чалавечага існавання.

**20 сакавіка** – рамантычная монаопера А. Залётнева **«Адзінокі птах»**, лібрэта Г. Дзягілевай. Спектакль прысвечаны палымянай любові Адама Міцкевіча да Бацькаўшчыны, няспраўджанай надзеі вяртання на Навагрудчыну. Выканаўца – заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат міжнародных конкурсаў Міхаіл Жылюк.

**6 сакавіка** ўдзень пройдзе лялечны монаспектакль **«Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага»** паводле казкі П. Васючэнкі і С. Кавалёва. Дзейнічаюць лялькі, з якімі гуляе артыст Вячаслаў Шакаліда. Ото ж былі шалапуты паны тыя!... Варта паглядзець на іх прыгоды.

**13 сакавіка** ўдзень – філасофская казка паводле вершаў К. Барнос дэ Гаштольд **«Маленькі анёлак»**. Вершы французскай пісьменніцы натхнілі С. Кавалёва стварыць п'есу пра анёла-ахоўніка. Выканаўца – Раіса Астрадзінава.

*На дзённыя пастаноўкі прымаюцца калектыўныя заяўкі.*

*Па дадатковыя даведкі можна звяртацца па мінскіх тэлефонах 231-75-53, 615-26-79, 684-45-34.*

## Прыродная таямніца

# А кветка жыве і цвіце...

Мой сусед і добры сябра Віталій Фурсевіч, кандыдат медыцынскіх навук, – заўзяты атэіст і не верыць ні ў якія цуды. Аднойчы я расказаў яму некалькі гісторый са свайго жыцця, якія, думалася, зменяць перакананні Віталія. Але ён палічыў тыя выпадкі проста неверагоднымі жыццёвымі супадзеннямі. Вось яны.

**Першая гісторыя.** Суседка з ніжняга паверха хацела спілаваць ясень насупраць нашага акна, наняла за бутэльку работніка. Мы з жонкай не дазволілі зрабіць такую чорную справу. Тады суседка пачала падліваць пад ясень розныя хімікаты. Жонка пільнавала і перашкаджала губіць дрэва. Ясень крыху падсох, але... тая жанчына таксама пачала сохнуць. Ёй сказалі, што ў яе кватэры дрэнная аура і раілі змяніць месца жыхарства. Яна з'ехала, а потым, казалі, памерла ад сухотаў. Ясень ачуняў і ў знак удзячнасці за выратаванне (я ўпэўнены ў гэтым) працягнуў да нашага балкона на трэцім паверсе пышную галіну. Зімой, калі ўсё навокал засыпана снегам, наш ясень абседжваецца сінічкамі і гілямі. Мы з захапленнем назіраем, як на пакрытых шэранню галінках, нібы акрабаты ў цырку, куляюцца птушкі, дзяўбуць мяцёлкі насення. Дзюбкамі, нібы мініяцюрнымі жорнамі, хуценька-хуценька вылузгваюць ядзеркі.

**Другая гісторыя.** Жонка хацела выкінуць стары, амаль засохлы вазон. Я пашкадаваў яго і, пасунуўшы друкарскую машынку, паставіў на свой пісьмовы стол. Праз два тыдні, якраз на каталіцкія Каляды, на ім з'явілася пунцовая кветка, потым (ці паверыце?) на Новы год ружа расцвіла зноў. Не сталі выключэннем і праваслаўныя Каляды. І цуд гэты – на фоне бялюткага снегу за акном.

Кветка трымалася толькі тры дні. Проста цяжка паверыць, але наша кітайская ружа, як называе яе мая жонка, прыносіла сюрпрызы менавіта на святы.

Мінула два гады... Той раніцай я збіраўся паспаць даўжэй, чым звычайна, ды мяне пабудзіў голас жонкі:

– Ты паглядзі! Зноў на твой дзень нараджэння расцвіла кітайская ружа! – І дадала пакрыўджаным тонам: – І чаму гэта на мой дзень нараджэння яна не расцвітае? Няўжо помніць, што я хацела яе выкінуць?

Я падхапіўся, асцярожна дакрануўся да чароўнай пунцовай кветкі, з удзячнасцю пацалаваў. Быў вельмі шчаслівы, пазіраючы, як дзівяцца гэтаму цуду мае любімыя ўнукі, дачка і зяць, якія прыехалі, каб павіншаваць мяне з 66-годдзем.

... Цяпер ужо і Віталій Фурсевіч, любуючыся вялізнай пунцовай кветкай, пагадзіўся са мной, што ўсё мае сваю ауру, нічога не трэба знішчаць без асаблівай патрэбы. Усё хоча жыць!

*Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВАЙНА МАСКОЎСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ** з ВКЛ 1492–1494 гадоў – першае адкрытае ваеннае наступленне Маскоўскай дзяржавы ў барацьбе за «отчыну» – за ўсходнеславянскія землі, што былі ў складзе ВКЛ. Ваенныя дзеянні пачаліся пасля смерці вялікага князя ВКЛ Казіміра IV. Былі папаленыя гарады Любуцк і Мцэнск, захопленыя Хлепень і Рагачоў, землі ў вярхоўі Акі. Не гатовае да абароны кіраўніцтва ВКЛ прапанавала пажаніць дачку Івана III Алену і новага вялікага князя ВКЛ Аляксандра, саступіла землі ў басейне Верхняй Акі і Вяземскае княства, адмовілася ад прэтэнзій на Пскоў і Ноўгарад.

**ВАЙНА МАСКОЎСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ** з ВКЛ 1500–1503 гадоў – другая вайна за ўсходнія землі ВКЛ. Зачэпкай для яе сталі распаўсюджаныя чуткі пра сацыяльна-нацыянальны ўціск праваслаўных насельнікаў ВКЛ. Было захоплена шмат яго гарадоў, аблажаны Смаленск. У маі 1501 г. напад на ўсходнія землі ВКЛ паўтарыўся, у чэрвені напалі (на той час саюзнікі Маскоўскай дзяржавы) крымскія татары. Войска ВКЛ было разбіта пад Мсціславам. Летам 1502 г. быў зноў атакаваны Смаленск, была спалена Орша, разбураныя многія гарады і вёскі на Полаччыне і Віцебшчыне. ВКЛ страціла землі з гарадамі Белая, Бранск, Веліж, Гомель, Драгабуж, Ноўгарад-Северскі, Старадуб, Чарнігаў і інш.



*Узброеныя маскавіты (XVI ст.)*

**ВАЙНА МАСКОЎСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ** з ВКЛ 1507–1508 гадоў – трэцяя вайна за ўсходнія землі ВКЛ. У красавіку 1507 г. быў учынены напад на Смаленск і Полацк, увосень асаджаныя Крычаў і Мсціслаў. Напад быў адбіты. У 1508 г. учыніў мяцеж М. Глінскі, заняў Тураў і Мазыр, спрабаваў захапіць Слуцк. Гэтая здрада М. Глінскага, аблога ім Менска паспрыяла Івану III зноў рушыць па трох напрамках – да Смаленска, Оршы і Слуцка. Некаторыя гарады (Драгабуж, Таропец) пераходзілі з рук у рукі. Ні адзін бок не атрымаў значнай ваеннай перавагі, але беларускі люд панёс вялікія ахвяры і страты.


Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.



Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by





Падпісана да друку: 23.02.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 341.
Тыраж 1550.